


# За свабодныя і справядлівыя СМІ ў Беларусі

Справаздача міжнароднай місіі ў Беларусь

20-24 верасня 2009 года

**Арганізацыі, якія склалі справаздачу:**
ARTICLE 19
«Абаронцы грамадзянскіх правоў» (Civil Rights Defenders)
Дацкі саюз журналістаў (Danish Union of Journalists)
«Індэкс цэнзуры» (Index on Censorship)
Еўрапейская федэрацыя журналістаў (EFJ)/Міжнародная федэрацыя журналістаў (IFJ)
«Міжнародная медыяпадтрымка» (International Media Support)
Міжнародная асацыяцыя выдаўцоў (International Publishers' Association)
Міжнародны ПЕН-Цэнтр (International Pen)
Міжнародны інстытут прэсы (International Press Institute)
Інстытут «Адкрытае грамадства» (Open Society Institute)
PressNow
«Рэпарцёры без межаў» (Reporters sans frontiers)
Сусветная асацыяцыя газет і выдаўцоў (World Association of Newspapers and News Publishers)

# Спіс арганізацый, якія ўхвалілі дадзеную справаздачу

**ARTICLE 19**
Free Word Centre
60 Farringdon Road, London EC1R 3GA
Tel: +44 207 324 2509
Fax: +44 207 490 0566
Contact: Nathalie Losekoot
Senior Programme Officer, Europe
Email: nathalie@article19.org
www.article19.org

**Civil Rights Defenders (former Swedish Helsinki Committee)**
Stora Nygatan 26 SE, 111 27 Stockholm
Sweden
Tel: +46 8 545 277 37
Contact: Joanna Kurosz
Programme Officer
Email:Joanna.Kurosz@civilrightsdefenders.org
http://civilrightsdefenders.org

**Danish Union of Journalists**
Dansk Journalistforbund
Medier & Kommunikation
Gammel Strand 46, 1202 København K
Tel: +45 33 42 80 00
Contact: Mogens Blicher Bjerregård
President
Email: MBB@Journalistforbundet.dk
www.journalistforbundet.dk

**Index on Censorship**
Free Word Centre
60 Farringdon Road, London EC1R 3GA
United Kingdom
Contact: Rohan Jayasekera
Associate Editor
Email: rj@indexoncensorship.org
Phone: +44 (0) 20 7324 2527
PDA: +44 (0) 795 682 7251
www.indexoncensorship.org

**International/European Federation of Journalists**
Residence Palace, Block C
Rue de la Loi 155
1040 Brussels
Contact: Marc Gruber
European Co-Director
Tel : +32 2 235 22 15
Fax : +32 2 235 22 19
Email: marc.gruber@ifj.org
www.ifj.org

**International Media Support**
Nørregade 18, Copenhagen K
1165 Denmark
Contact: Jane Moller Larsen
Programme Coordinator (M&D Unit)
Phone: +4588327000
Fax: +4533120099
email: jml@i-m-s.dk
www.i-m-s.dk/

**International Publishers' Association**
3, avenue de Miremont
1206 Geneva
Switzerland
Tel : +41 22 704 18 20
Fax : +41 22 704 18 21
Contact: Mr Alexis Krikorian
Freedom to Publish
Email: krikorian@internationalpublishers.org
www.internationalpublishers.org

**International Pen**
Brownlow House
50-51 High Holborn
London WC1V 6ER
Contact: Sara Whyatt
Programme Director
Tel: + 44 (0) 20 7405 0338
Fax: + 44 (0) 20 7405 0339
Email: sara.whyatt@internationalpen.org.uk
www.internationalpen.org.uk

**International Press Institute**
Spiegelgasse 2
1010 Vienna, Austria
Tel: (+43 1) 512 90 11
Fax: (+43 1) 512 90 14
Contact: Colin Peters
Email: cpeters@freemedia.at
www.freemedia.at

**Open Society Institute**
Media Programme
Contact: Biljana Tatomir
Deputy Director
Email: btatomir@osi.hu
www.soros.org/initiatives/media

**PressNow**
Witte Kruislaan 55
1217 AM Hilversum
Postbank 7676
The Netherlands
Elisabetta Plebani
Head Office
Tel +31 35 62 54 300
Fax +31 35 62 54 310
Email: Elisabetta.Plebani@pressnow.nl
www.pressnow.nl

**Reporters sans frontières**
47 rue Vivienne
75002 Paris
France
Tél. : 01 44 83 84 67
Fax : 01 45 23 11 51
Contact : Elsa Vidal
Bureau Europe & Ex-URSS
Email :europe@rsf.org
www.rsf.org

**World Association of Newspapers and News Publishers**
7 Rue Geoffroy Saint Hilaire
75005 Paris
France
Tel: +33 1 47 42 85 28
Fax: +33 1 47 42 49 48
Contact: Virginie Jouan
Executive Director, Press Freedom and Development
Email: vjouan@wan.asso.fr
www.wan-ifra.org

# Змест

# 1 Уводзіны

Гэтая справаздача з’яўляецца вынікам працы місіі па вывучэнні сітуацыі ў сферы СМІ ў Беларусі, якая адбылася 20-24 верасня 2009 года. Місія ажыццяўлялася дэлегацыяй, у склад якой увайшлі прадстаўнікі арганізацый, што займаюцца пытаннямі свабоды прэсы і развіцця СМІ і маюць доўгатэрміновыя сувязі з супрацоўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і арганізацыямі ў Беларусі.

У Беларусі дэлегацыя сустрэлася з прадстаўнікамі ўлады, а таксама дзяржаўных і недзяржаўных медыя-арганізацый для таго, каб абмяняцца меркаваннямі датычна бягучай сітуацыі з незалежнымі СМІ, свабодай прэсы, свабодай слова і доступу да інфармацыі ў Беларусі.[1]

1 *Гл. Дадатак 1 да гэтай справаздачы – Праграма візіту місіі.*

# 2 Перадумовы і задачы місіі ў Беларусь



*Міжнародная місія перад будынкам Адміністрацыі прэзідэнта ў Мінску. Фота Могенса Б'ерэгарда*

Грунтуючыся на ведах і экспертным досведзе арганізацый-удзельніц у галіне міжнародных стандартаў у медыясферы, мэта місіі была сфармуляваная наступным чынам: вывучыць цяперашнюю сітуацыю ў галіне СМІ і свабоды слова ў Беларусі. У гэтым жа святле, мэтай дадзенай справаздачы з'яўляецца прыцягненне ўвагі да пытанняў свабоды прэсы і рэформ у галіне СМІ ў межах перамоў, якія адбываюцца паміж Еўрапейскім Саюзам (ЕС) і ўрадам Беларусі - як у сувязі з цяперашнім прыпыненнем некаторых санкцый ЕС у дачыненні да Беларусі, так і ў сувязі з ініцыятывай Усходняга Партнёрства і дыялогу па правах чалавека.

Першая сустрэча некаторых арганізацый, якія ўзялі ўдзел у місіі, з Генеральным упраўленнем Е Дырэктарата Заходніх Балкан, Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі Рады Еўрапейскага Саюза, адбылася ў Бруселі 1 красавіка 2009 года. У далейшым група арганізацый, якія ўдзельнічалі ў місіі, накіроўвала ў Раду ЕС абноўленую інфармацыю пра сітуацыю ў сферы СМІ ў Беларусі.

### Удзельнікі дэлегацыі місіі і арганізацыі, якія бралі ўдзел

Арганізацыі, якія накіравалі сваіх прадстаўнікоў у дэлегацыю:

- Еўрапейская федэрацыя журналістаў (EFJ)/Міжнародная федэрацыя журналістаў (IFJ)
- Інстытут "Адкрытае грамадства" (Open Society Institute)
- «Індэкс цэнзуры» (Index on Censorship)
- «Міжнародная медыяпадтрымка» (International Media Support)
- Дацкі саюз журналістаў (Danish Union of Journalists)
- ЮНЭСКА (UNESCO)

Місія была арганізаваная ў супрацоўніцтве з Грамадскім аб'яднаннем «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ), а таксама Дэлегацыяй Еўрапейскай Камісіі ў Мінску.

Варта адзначыць, што ўдзел у місіі павінна была таксама ўзяць прадстаўніца арганізацыі «Абаронцы грамадзянскіх правоў» (Civil Rights Defenders), аднак яна не атрымала беларускай візы, нягледзячы на тое, што звярнулася па яе адначасова з астатнімі ўдзельнікамі дэлегацыі.

Акрамя непасрэдных удзельнікаў дэлегацыі, шэраг іншых міжнародных медыя-арганізацый былі ўключаныя ў працу місіі і падпісалі яе выніковыя дакументы. Гэта наступныя арганізацыі:

- «Абаронцы грамадзянскіх правоў» (Civil Rights Defenders)
- PressNow
- Сусветная асацыяцыя газет і выдаўцоў (World Association of Newspapers and News Publishers)
- Article 19
- Міжнародны інстытут прэсы (International Press Institute)
- Камітэт па абароне журналістаў (Committee to Protect Journalists)
- «Рэпарцёры без межаў» (Reporters without Borders)

**Задачы місіі**
*Галоўная мэта місіі была сфармуляваная наступным чынам:*

Забяспечыць сітуацыю, пры якой Рада Еўрасаюза будзе настойваць на правядзенні ўладамі Беларусі рэальных і рашучых рэформ у сферы СМІ, якія б усталявалі свабоду прэсы і забяспечылі права журналістаў выконваць прафесійныя абавязкі незалежна, без неналежнага палітычнага ўплыву, а таксама стварылі адпаведны міжнародным стандартам медыя-асяродак.

*Непасрэднымі задачамі місіі былі наступныя:*

- праінфармаваць структуры Еўрапейскага Саюза, у першую чаргу Раду міністраў Еўрасаюза, а таксама іншыя арганізацыі, такія як Рада Еўропы, пра цяперашнюю сітуацыю са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі;
- праверыць рэальнасць задэклараванай беларускім урадам прыхільнасці да рэформ;
- прасоўваць медыярэформы і спрыяць іх правядзенню.

Першым непасрэдным вынікам місіі стала распрацоўка заявы (яе тэкст можна знайсці ў Дадатку 2 да справаздачы). Праект тэксту заявы быў складзены падчас ажыццяўлення місіі, а сама заява зроблена адразу ж пасля завяршэння візіту. Наступным вынікам місіі стала падрыхтоўка дадзенай справаздачы пра сітуацыю са СМІ ў Беларусі. У сувязі з тым, што краінай – старшынёй Рады Еўрасаюза ў дадзены момант з'яўляецца Швецыя, якая адказвае за прасоўванне важных для ЕС тэм, гэтая справаздача, уключаючы заяву місіі, была прадстаўленая шведскаму ўраду 16 кастрычніка 2009 года.

# 3 Цяперашняя сітуацыя са СМІ і свабодай прэсы ў Беларусі

Як адзначылі некаторыя прадстаўнікі недзяржаўных СМІ ў верасні 2009 года, «зараз мы можам дыхаць, хоць яшчэ не можам рухацца». У той жа час, некаторыя іх калегі ўпэўненыя: *«Усё гэта толькі касметыка рэжыму, насамрэч нічога не змянілася»*.

**Нізкія прафесійныя стандарты**
Нягледзячы не некаторыя сімвалічныя і асобныя жэсты з боку ўладаў, сітуацыя ў Беларусі па-ранейшаму не адпавядае міжнародным стандартам у галіне свабоды СМІ, а ўлады па-ранейшаму выкарыстоўваюць шэраг рэпрэсіўных палажэнняў, накіраваных на падаўленне крытычных, апазіцыйных і альтэрнатыўных меркаванняў. Галоўныя праблемы знаходзяцца ў сферы доступу да інфармацыі, які ў значнай ступені абмежаваны для недзяржаўных СМІ праз сістэму ідэалагічных упраўленняў. Гэтыя ўпраўленні ўкаранёныя ва ўсю сістэму дзяржаўнай адміністрацыі ў краіне. Такім чынам, паколькі большасць незалежных СМІ не могуць атрымліваць грамадска-важную інфармацыю, грамадства ў большасці сваёй аказваецца пазбаўленым інфармацыі пра важныя грамадскія праблемы і рашэнні ўладаў і адміністратыўных органаў. Сродкі масавай інфармацыі ў цяперашніх умовах у Беларусі не могуць цалкам выконваць сваю функцыю *«вартавога сабакі ўрада ва ўсіх яго формах, выступаючы за празрыстасць у грамадскім жыцці і пільны грамадскі кантроль за прадстаўнікамі ўлады праз выкрыццё карупцыі, неналежнага кіравання і карпаратыўных правапарушэнняў»*.[2]




*Газетны кіёск у Мінску. Фота БАЖ*

2 *Паказчыкі развіцця сродкаў масавай інфармацыі – сістэма ацэнкі развіцця сродкаў масавай інфармацыі, ЮНЕСКА, сакавік 2008 г. – гл. Дадатак 3*

**Адсутнасць значных структурных зменаў**

Надзеі на структурныя змены, якія звязваліся з Non-paper, выдадзенай беларускімі ўладамі 19 лістапада 2008 года, па-ранейшаму падаюцца заўчаснымі. У Non-paper было афіцыйна заяўлена аб вяртанні незалежных газет «Народная воля» і «Наша Ніва» ў беларускія друкарні, дзяржаўную сістэму распаўсюду прэсы і падпісны каталог «Белпошты», а таксама пра намер правесці шэраг круглых сталоў і сустрэч па пытаннях СМІ з прыцягненнем шырокага кола зацікаўленых бакоў. І гэтыя абяцанні былі выкананыя. У той жа час, іншыя абяцанні, напрыклад, пра тое, што «вынікі дыскусіі падчас круглага стала будуць прынятыя да ўвагі беларускім бокам для далейшага паляпшэння заканадаўства і яго ўжывання ў гэтай сферы», а таксама пра тое, што «беларускі ўрад мае намер рабіць далейшыя крокі насустрач больш шчыльнаму супрацоўніцтву з Еўрасаюзам [...], ён зацікаўлены не толькі ў дыскусіі, але і ў канкрэтных кроках у найбліжэйшым будучым», пакуль застаюцца толькі ў перспектыве.

Падчас місіі яе дэлегацыя атрымала наступныя дадзеныя:

- СМІ працуюць у няроўных эканамічных умовах;
- сістэмы распаўсюду і падпіскі манапалізаваныя або ў значнай ступені кантралююцца дзяржавай, пры гэтым існуюць абмежаванні для недзяржаўных СМІ;
- працэс вылучэння ліцэнзій і частот для вяшчання не з'яўляецца празрыстым і роўным;
- доступ да інфармацыі абмяжоўваецца;
- маюцца праблемы з акрэдытацыяй журналістаў (якія працуюць на замежныя СМІ);
- заканадаўства, датычнае дыфамацыі і экстрэмізму, стварае глебу для самацэнзуры, што вядзе да недахопу агульнадаступнай інфармацыі аб важных пытаннях;
- нядаўна створаная грамадская каардынацыйная рада ў сферы масавай інфармацыі не мае рэальнай улады і выконвае толькі сімвалічную ролю.

**Кароткі агляд дыялогу паміж Еўрасаюзам і Беларуссю**

У дыялогу Еўрасаюза і Беларусі праходзяць некалькі паралельных працэсаў. Іх апісанне, прыведзенае ніжэй, дае кароткі агляд розных узроўняў і платформ гэтага дыялогу.

*Дыялог па правах чалавека*

Першая сустрэча ў рамках дыялогу па правах чалавека паміж ЕС і Беларуссю адбылася 16-17 чэрвеня 2009 года[3], а наступная запланаваная на 2010 год. Падчас перамоў у чэрвені 2009 года абодва бакі ўзнялі асобныя пытанні, датычныя стану з правамі чалавека ў ЕС і Беларусі. Сярод іншага, гэтыя пытанні тычыліся, у прыватнасці, свабоды СМІ, свабоды выказвання, свабоды асацыяцый і сходаў. Дыялог па правах чалавека складае частку працэсаў прыпынення візавых санкцый, аднак па сутнасці наўпрост з імі не звязаны.

Санкцыі ў дачыненні да 40 беларускіх службовых асобаў і асабіста прэзідэнта Лукашэнкі былі ўведзеныя Еўрасаюзам у 2004 і 2006 гадах. Іх вынікам стала забарона на выдачу віз на ўезд у краіны ЕС 41 службовай асобе Беларусі. На сёння гэтыя санкцыі часова прыпыненыя ў дачыненні да 35 службовых асобаў і прэзідэнта Лукашэнкі, аднак яны захаваныя для асобаў, якія падазраюцца ў спрычыненні да знікнення вядомых людзей у Беларусі ў 1999-2000 гадах, а таксама для старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі.

3 *Дыялог па правах чалавека паміж ЕС і Беларуссю, Прага,16-17 чэрвеня 2009 (http://www.consilium.europa.eu/uedocs/cms_Data/docs/pressdata/en/er/108603.pdf)*

*Прыпыненне візавых санкцый*

Што тычыцца прыпынення візавых санкцый, то яно абмяркоўваецца ў Еўрапейскім парламенце, а адпаведныя рашэнні прымаюцца Радай па агульных пытаннях і знешніх сувязях *(The General Affairs and External Relations Council - GAERC)*. GAERC з'яўляецца самай старой структурай Рады Еўрапейскага Саюза[4], ён праводзіць асобныя сустрэчы па агульных пытаннях і знешніх сувязях ЕС. На гэтых сустрэчах збіраюцца міністры замежных спраў краін-сябраў Еўрасаюза. У залежнасці ад пунктаў парадку дня, міністры, якія адказваюць за еўрапейскія справы, абарону, развіццё альбо гандаль, таксама бяруць удзел у паседжаннях.

Візавыя санкцыі былі ўпершыню прыпыненыя ў кастрычніку 2008 года пасля парламенцкіх выбараў і вызвалення ўсіх палітычных зняволеных. Часткова ў якасці адказнага кроку GAERC прыняў рашэнне прыпыніць візавыя санкцыі на 6 месяцаў. У сакавіку 2009 года было прынята рашэнне падоўжыць прыпыненне візавых санкцый яшчэ на 9 месяцаў, паколькі былі адзначаныя некаторыя змены ў бок дэмакратызацыі. На пачатку красавіка 2009 года Еўрапейскі парламент выпусціў прэс-рэліз, у якім адзначалася, што *«парламент працягвае выказваць заклапочанасць сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, аднак вітае дыялог на вышэйшым узроўні паміж ЕС і Беларуссю як шлях да дасягнення паразумення. Умовай для далейшай інтэнсіфікацыі дыялогу павінна стаць спыненне ўсіх абмежаванняў свабод і гвалту ў дачыненні да актывістаў апазіцыі»*.[5]

У той жа час, дэпутаты Еўрапарламента афіцыйна падтрымалі рашэнне Рады Еўрасаюза аб падаўжэнні эмбарга на пастаўку ўзбраенняў яшчэ на адзін год, а таксама аб захаванні некаторых санкцый (у прыватнасці, замарожвання рахункаў) у дачыненні да шэрагу беларускіх службовых асобаў. Пры гэтым прыпыненне візавых санкцый было падоўжана яшчэ на 9 месяцаў. Выснова была наступнай: *«Калі Беларусь дасягне прагрэсу ва ўсіх пералічаных пунктах, забарона на паездкі ў краіны ЕС службовым асобам павінна быць цалкам знятая, а таксама павінны быць прынятыя іншыя меры па рэінтэграцыі Беларусі ў еўрапейскую сям'ю дэмакратычных народаў»*.

*Усходняе партнёрства*

Усходняе партнёрства - гэта ініцыятыва Еўрасаюза, першапачаткова прапанаваная Польшчай і Швецыяй у 2008 годзе. Удзельнікамі Усходняга партнёрства з'яўляюцца 27 краін-чальцоў Еўрасаюза і яшчэ 6 дзяржаў: Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова і Украіна. Усходняе партнёрства з'яўляецца першаснай прыладай тэхнічнай дапамогі ЕС згаданым краінам. Што тычыцца перспектыў Усходняга партнёрства, то чакаецца, што больш шчыльнае супрацоўніцтва адкрые магчымасці для стабілізацыі рэгіёна, пашырыць зону бяспекі і дабрабыту, а таксама забяспечыць эканамічную і энергетычную бяспеку ЕС і яго партнёраў. Агульная сума дапамогі, якая прадастаўляецца Еўрасаюзам гэтым шасці краінам, павінна паступова павялічвацца з 450 мільёнаў еўра ў 2008 годзе да 785 мільёнаў еўра ў 2013-м.

Як было заяўлена Еўрапейскім Саюзам, Беларусь уключаная ў праграму Ўсходняга партнёрства па наступных прычынах: *«Беларусь з'яўляецца важным усходнім суседам Еўрасаюза, зацікаўленым у развіцці сваіх адносін з намі. У залежнасці ад свайго ўласнага выбару і сваіх рашэнняў, Беларусь зможа атрымаць карысць ад Усходняга партнёрства для інтэнсіфікацыі*

4 *Савет па агульных пытаннях і знешніх сувязях (http://ec.europa.eu/external_relations/gac/index.htm)*

5 *Прэс-рэліз «Паляпшэнне адносін з Беларуссю залежыць ад прагрэсу ў пытаннях свабоды і дэмакратыі, заявіў Еўрапейскі Парламент» (http://www.europarl.europa.eu/news/expert/infopress_page/030-53244-091-04-14-903-20090401IPR53243-01-04-2009-2009-false/default_da.htm)*

*ўзаемаадносін з Еўрасаюзам. У Беларусі ёсць рэальная магчымасць стаць актыўным партнёрам ЕС у рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства, у выпадку, калі краіна стане на шлях фундаментальных дэмакратычных і эканамічных рэформ і наблізіцца да агульных каштоўнасцяў. На першапачатковым этапе Беларусь можа ўдзельнічаць у дзейнасці шматбаковых платформ».*[6]

Падчас саміта Усходняга партнёрства ў Празе ў траўні 2009 года ўсе ўдзельнікі Усходняга партнёрства, уключаючы Рэспубліку Беларусь, прадстаўленую першым намеснікам прэм'ер-міністра Уладзімірам Сямашкам, сумесна заявілі, што пачатак партнёрства стаў вынікам агульнага імкнення, якое грунтуецца на ўзаемных інтарэсах і прыхільнасці прынцыпам міжнароднага права і фундаментальным каштоўнасцям, такім як дэмакратыя, вяршэнства закона, павага да правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама рынкавай эканоміцы, устойліваму развіццю і эфектыўнаму кіраванню.[7]

*Наступныя крокі Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі*

Чакаецца, што міністры замежных спраў краін-сябраў Еўрасаюза прымуць рашэнне аб прыпыненні візавых санкцый на сустрэчы Рады па агульных пытаннях і знешніх сувязях (GAERC) 16-17 лістапада 2009 года пад старшынствам Швецыі.

З пункту гледжання міжнародных няўрадавых арганізацый, пакуль складана прадказаць вынік гэтай сустрэчы, паколькі краіны-сябры ЕС разыходзяцца ў меркаваннях у гэтым пытанні. Адна іх частка схільная прыпыніць санкцыі для таго, каб павялічыць уласны ўплыў у краінах былога СССР і супрацьстаяць уплыву Масквы ў рэгіёне, які ўсё больш расце. Аднак іншыя краіны-чальцы ЕС больш крытычна ставяцца да незадавальняльнай сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і, верагодна, паставяцца больш крытычна і да пытання магчымага рэжыму санкцый з боку ЕС у дачыненні да Беларусі.

Такім чынам, аўтары дадзенай справаздачы маюць уяўленне аб гістарычнасці і комплекснай палітычнай дынаміцы, у якой гэтыя назіранні і рэкамендацыі будуць абмяркоўвацца і ўжывацца. Тым не менш, пры падрыхтоўцы дадзенага дакумента яго аўтары не адыходзілі ад галоўнай яго задачы - даць магчымасць Еўрапейскаму Саюзу прымаць рашэнні, грунтуючыся на поўнай інфармацыі.

6 *Пытанні і адказы па Усходнім партнёрстве (http://europa.eu/rapid/pressReleases-Action.do?reference=MEMO/09/217&format=HTML&aged=0&language=EN&guiLanguage=en)*

7 *Сумесная дэкларацыя Пражскага саміту Усходняга партнёрства, 7 мая 2009 года (http://www.consilium.europa.eu/uedocs/cms_data/docs/pressdata/en/er/107589.pdf)*

# 4 Ціск і фізічныя пагрозы ў дачыненні да СМІ



*Супрацоўнік АМАП перашкаджае тэлеаператару здымаць акцыю пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года.*
*Фота Юліі Дарашкевіч*

Калі ўлады Беларусі ўступаюць ва ўзаемадачыненні са сродкамі масавай інфармацыі, яны звычайна выкарыстоўваць для гэтага «мову вайны». Выступаючы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў лютым 2008 года, прэзідэнт Лукашэнка выразна заявіў, што бачыць пагрозу з боку сродкаў масавай інфармацыі, не падпарадкаваных яму наўпрост.

«У руках сродкаў масавай інфармацыі - зброя самай разбуральнай сілы, і яны павінны кантралявацца дзяржавай», - сказаў прэзідэнт на сустрэчы са студэнтамі БДУ.

І насамрэч, новы закон «Аб сродках масавай інфармацыі», які быў падпісаны прэзідэнтам у жніўні 2008 года і ўступіў у сілу ў лютым 2009-га, яшчэ больш ускладняе і без таго жорсткія абмежаванні ў сферы СМІ. Закон дае як Міністэрству інфармацыі, так і органам пракуратуры паўнамоцтвы прыпыняць альбо закрываць сродкі масавай інфармацыі, калі іх змест можа «пагражаць інтарэсам дзяржавы альбо грамадства».

Мяркуючы па заявах з боку дзяржавы, сродкі масавай інфармацыі нясуць у сабе больш пагроз, чым «варожыя танкі». 25 лютага 2009 года Таццяна Міранюк, суддзя раённага суда з Брэста, пастанавіла знішчыць асобнікі часопіса Arche на той падставе, што яго змест з'яўляецца «экстрэмісцкім» і «пагражае бяспецы краіны». Arche друкуецца ў Мінску. Часопіс распаўсюджваецца па падпісцы і праз уласную сетку валанцёраў, аднак дзяржаўная сістэма распаўсюджвання прэсы адмаўляецца распаўсюджваць яго.

Карэспандэнты замежных СМІ атрымліваюць адмовы ў акрэдытацыі на працу ў Беларусі. Незалежныя СМІ пазбаўленыя магчымасці

атрымліваць сродкі наўпрост ад міжнародных арганізацый, якія займаюцца пытаннямі развіцця прэсы. У той жа час, цяперашняя палітычная і эканамічная сітуацыя не дазваляе казаць пра ўнутраныя інвестыцыі ў незалежную прэсу.

Як адзначыў адзін з беларускіх экспертаў, Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму» мае настолькі шырокія тлумачэнні, што практычна ўсё сказанае ці напісанае журналістам можа быць прызнана «экстрэмісцкім» - а гэта стварае дадатковыя пагрозы для СМІ, якія пішуць пра так невыразна сфармуляваныя «злачынствы».

Пераслед незалежных СМІ з боку ўраду ставіць пад сумнеў запэўніванні беларускіх уладаў, зробленыя на адрас Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і Еўрасаюза, наконт імкнення паважаць правы журналістаў і пачаць такія неабходныя рэформы ў медыясферы.

Беларускія ўлады ставяцца да журналістаў, як да ворагаў дзяржавы, як да прамой пагрозы краіне. У іншых краінах – такіх, як суседняя Расія, – гэткі падыход наўпрост звязаны з забойствамі журналістаў. У краінах, дзе забойствы журналістаў застаюцца беспакаранымі, колькасць падобных злачынстваў расце.

У Беларусі відавочна, што дзяржава спакойна ставіцца да фізічнага гвалту з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў у дачыненні да журналістаў, якія выконваюць свае абавязкі па асвятленні грамадска значных падзей.

16 верасня 2009 года супрацоўнікі праваахоўных органаў перашкаджалі журналістам здымаць разгон мірнай акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. У ліку гэтых журналістаў былі карэспандэнты замежных агенцтваў Associated Press, Reuters і AFP, а таксама рэпарцёры сайта «Хартыя-97», Радыё «Свабода», недзяржаўных газет «Наша Ніва» і «Белгазета», а таксама інфармацыйнага агенцтва БелаПАН.

Падчас мірнай дэманстрацыі 25 сакавіка 2008 года, прысвечанай 90-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, фотарэпарцёр «Нашай Нівы» Андрэй Лянкевіч быў збіты супрацоўнікамі міліцыі і затрыманы. Нават падчас судовага разгляду суд адмовіўся прымаць да ўвагі журналісцкае пасведчанне Лянкевіча і сведчанні яго працадаўца, а запатрабаваў «істотныя доказы» таго, што Андрэй выконваў прафесійныя абавязкі падчас дэманстрацыі. У той жа час Сямён Печанко, таксама журналіст «Нашай Нівы», быў затрыманы на гэтай жа акцыі і атрымаў 15 сутак адміністратыўнага арышту. Журналіста абвінавацілі ў арганізацыі і правядзенні незаконнай дэманстрацыі.[8]

Карэспандэнты Літоўскага нацыянальнага тэлебачання і радыё Рута Рыбачаўскене і Ёнас Грышконіс таксама былі затрыманыя падчас вядзення відэаздымкаў дэманстрацыі. Журналістаў адпусцілі ў той жа дзень, але толькі пасля таго, як міліцыя забрала іх відэазапісы.[9]

У рэзалюцыі №1636, прынятай Радай Еўропы 3 кастрычніка 2008 года, прысвечанай індыкатарам СМІ ў дэмакратычнай краіне, гаворыцца пра тое, што журналісты павінны быць абароненыя ад фізічнага гвалту. *«Журналісты павінны быць абароненыя ад фізічных пагроз і гвалту, звязанага з іх працай, - гаворыцца ў адным з 27 асноўных прынцыпаў, зацверджаных рэзалюцыяй. - Па просьбе журналістаў ім павінна быць прадастаўленая абарона*

8 *(http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-5771.html)*

9 *(http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-5771.html)*

*з боку праваахоўных органаў. Органы пракуратуры і суды павінны своечасова і адэкватна разглядаць выпадкі пагроз альбо фізічных нападаў на журналістаў»*.

16 верасня 2009 года журналісты, працы якіх перашкаджалі супрацоўнікі праваахоўных органаў, асвятлялі акцыю, прысвечаную 10-м угодкам знікнення палітыка Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага. Абодва яны лічацца забітымі, іх выкрадальнікі і магчымыя забойцы дагэтуль не знойдзеныя, нягледзячы на наяўнасць ускосных доказаў, якія звязваюць магчымае забойства з былымі міністрамі ўнутраных спраў Уладзімірам Навумавым і Юрыем Сіваковым, былым сакратаром Рады бяспекі Віктарам Шэйманам і былым камандзірам спецпадраздзялення хуткага рэагавання Дзмітрыем Паўлічэнкам. Усім ім забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза і Злучаных Штатаў Амерыкі на падставе іх магчымай спрычыненасці да здзяйснення злачынства.[10]

Нягледзячы на звароты Камітэта па правах чалавека ААН, Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы і АБСЕ, ніхто з выкрадальнікаў і магчымых забойцаў Ганчара і Красоўскага альбо ініцыятараў гэтых выкраданняў і забойстваў так і не быў арыштаваны, абвінавачаны і асуджаны на адкрытым судовым паседжанні. Апошняе дзесяцігоддзе толькі ўмацавала разуменне таго, што крытыкі ўлады могуць адчуваць пагрозы на свой адрас альбо нават быць беспакарана забітымі.

Гэтае пачуццё беспакаранасці таксама падштурхоўвае іншыя групы да пагроз на адрас СМІ і журналістаў. Наталля Радзіна, рэдактарка апазіцыйнага інтэрнэт-сайта «Хартыя’97», атрымала 15 ліпеня па электроннай пошце пагрозу гвалту ў выпадку, калі яна не будзе «асцярожнай» з публікацыяй матэрыялаў на сайце. Гэта «пасланне» прыйшло следам за публікацыяй 8 ліпеня на сайце інфармацыі пра памілаванне лідэра прарасійскай неафашысцкай групы «Рускае Нацыянальнае Адзінства» і аб няздольнасці ўладаў стрымаць яе ксенафобскую і расісцкую дзейнасць.

Разам з пагрозамі гвалту на адрас Наталлі Радзінай сам сайт «Хартыя’97» і яго супрацоўнікі ўжо доўгі час падвяргаюцца праследу з боку ўладаў. 8 чэрвеня сайт быў заблакаваны, а 26 красавіка міліцыя ўвайшла ў офіс інтэрнэт-рэсурсу з відавочным намерам не дапусціць правядзення online-рэпартажу пра акцыю апазіцыі. Дамінуючую ролю ў беларускім Інтэрнэце адыгрывае дзяржаўны правайдэр, што на практыцы азначае, што большасць сайтаў праваабарончай тэматыкі часцяком з’яўляюцца недаступнымі напярэдадні альбо падчас выбараў ці апазіцыйных вулічных акцый.[11]

Яшчэ адныя сумныя ўгодкі ў Беларусі адзначалі 7 ліпеня 2009 года. У гэты дзень споўнілася 9 гадоў з моманту знікнення беларускага журналіста, аператара тэлеканала ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Ён быў выкрадзены па дарозе ў мінскі аэрапорт. І зноў дзяржава аказалася спрычыненай да гэтага знікнення. Байцы спецпадраздзялення «Алмаз» Валерый Ігнатовіч і Максім Малік, былы навучэнец Акадэміі МУС Аляксей Гуз, а таксама Сяргей Савушкін былі асуджаныя на розныя тэрміны турэмнага зняволення за выкраданне (але не за забойства) Завадскага. З тых часоў Савушкін ужо выйшаў на волю, аднак трое астатніх адмаўлялі сваю віну на судзе, які праходзіў у закрытым рэжыме. Цела Дзмітрыя Завадскага так і не было знойдзена. Людзі, якіх падазравалі ў тым, што далі загад выкрасці і забіць журналіста, дагэтуль публічна ў гэтым не абвінавачаныя.

10 *«Рэпарцёры без межаў»: http://www.rsf.org/Politically-motivatedharassment.html*

11 *(http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-3954.html)*



*Тэлеаператар Дзмітрый Завадскі знік без вестак 7 ліпеня 2000 года. Фота Photo.ByMedia.net*

Улады Беларусі не змаглі належным чынам расследаваць забойства Веранікі Чаркасавай, вядомай апазіцыйнай журналісткі. Яна была жорстка забітая ў сваёй кватэры ў Мінску 20 кастрычніка 2004 года. Яе цела было знойдзена з 40 нажавымі раненнямі, у асноўным нанесенымі ў вобласць шыі, і з нажом у грудзях. Забойца не ўзяў грошай ці іншых каштоўнасцяў, але пакінуў след крыві ў яе нататніку. Нягледзячы на ўсе доказы таго, што Вераніка Чаркасава была забітая з-за прафесійнай дзейнасці, улады аддалі перавагу цынічнаму і жорсткаму пераследу яе сям'і, назваўшы ў якасці падазраваных па справе сына Веранікі Антона Філімонава і яе айчыма Уладзіміра Мялешку.[12]

«Тым, хто здзяйсняе гвалт у дачыненні да журналістаў, не павінна быць дазволена рабіць гэта беспакарана, - заявіў Прадстаўнік АБСЕ па свабодзе СМІ Міклас Харашці 20 снежня 2006 года. - Базавым прынцыпам АБСЕ з'яўляецца тое, што акты гвалту і пераследу ў дачыненні да супрацоўнікаў СМІ павінны быць належным чынам расследаваныя ў адпаведнасці з вяршэнствам закона, а злачынцы павінны прадставаць перад судом».



*Журналістку газеты «Салідарнасць» Вераніку Чаркасаву жорстка забілі 20 кастрычніка 2004 года. Ёсць падазрэнні, што забойства звязана з яе прафесійнай дзейнасцю. Фота БАЖ*

Папярэднія абзацы далі агульную карціну нападаў на журналістаў і пагроз на іх адрас, хоць насамрэч падобных фактаў было значна больш. Місія вітае нядаўнія змены ў Беларусі і прызнае, што ціск на СМІ і журналістаў зменшыўся. Аднак місія таксама заяўляе, што дзяржава павінна спыніць пераслед журналістаў за іх прафесійную дзейнасць і не перашкаджаць іх працы на грамадскіх мерапрыемствах і дэманстрацыях.

*12 (http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-3953.html)*

**Рэкамендацыі:**

1. Уладам варта рэфармаваць Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму» і прывесці яго ў адпаведнасць з міжнароднымі абавязальніцтвамі Беларусі ў галіне правоў чалавека для забеспячэння свабоды прэсы і свабоды выказванняў.

2. Беларусь павінна правесці поўнае і празрыстае расследаванне - пажадана зробленае незалежным экспертам - акалічнасцяў знікнення аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, а таксама забойства Веранікі Чаркасавай. Вартае даверу расследаванне гэтых спраў зможа паменшыць сярод беларускіх журналістаў страх фізічнай расправы ці нават беспакаранага забойства.

3. Улады Беларусі павінны прыняць пэўныя захады па забеспячэнні правоў журналістаў замест таго, каб пераследаваць іх, выкарыстоўваючы «мову вайны», і падвяргаць іх яшчэ большым пагрозам.

# 5 Эканамічныя ўмовы дзейнасці СМІ




*4 снежня 2008 года недзяржаўную газету «Наша Ніва» вярнулі ў дзяржаўную сістэму распаўсюду «Саюздрук» пасля таго, як яна некалькі гадоў не магла распаўсюджвацца праз дзяржаўныя кіёскі.*

У Беларусі існуе два традыцыйныя сродкі распаўсюду прэсы - падпіска і рознічны гандаль праз сетку кіёскаў. Гэтым займаюцца два буйныя дзяржаўныя прадпрыемствы. *«Саюздрук»* - гэта агульнарэспубліканская сістэма рознічнага продажу прэсы. *«Белпошта»* з'яўляецца нацыянальным паштовым прадпрыемствам, якое валодае падпісной сістэмай.

16 недзяржаўных грамадска-палітычных газет былі выключаны з падпіснога каталога *«Белпошты»* і 19 газет - з шапікаў *«Саюздруку»* напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Самі прадпрыемствы-распаўсюднікі традыцыйна тлумачаць гэты факт тым, што заканадаўства Беларусі не абавязвае іх уключаць перыядычныя выданні ў падпісны каталог або прадаваць іх праз газетныя кіёскі. Беларускія суды адмаўляліся разглядаць скаргі чытачоў і рэдактараў газет, выключаных з дзяржаўных сістэм распаўсюду. Некаторыя з выданняў, застаўшыся без магчымасці распаўсюджвацца і, такім чынам, зарабляць грошы, вымушаныя былі спыніць альбо прыпыніць выпуск газет («Салідарнасць», «БДГ. Деловая газета», «Химик») і цяпер існуюць выключна як online-праекты.

У Non-paper, якую ўлады Беларусі накіравалі Еўрасаюзу 19 лістапада 2008 года, было заяўлена пра тое, што «рэальная магчымасць для недзяржаўных газет *«Народная воля»* і *«Наша Ніва»* друкавацца на тэрыторыі Беларусі» і «доступ вышэйзгаданых газет да дзяржаўнай сістэмы распаўсюду прэсы і падпіснога каталогу *«Белпошты»* з'яўляюцца крокамі, распачатымі беларускім бокам, каб «прадэманстраваць сур'ёзнасць яго намераў нармалізаваць адносіны з Еўрасаюзам».

Насамрэч, газеты «Народная воля» і «Наша Ніва» былі вернутыя ў сістэмы «Саюздруку» і «Белпошты». У той жа час, яны па-ранейшаму сутыкаюцца з абмежаваннямі сваіх накладаў. Акрамя таго, адлічэнні прадпрыемствам-распаўсюднікам, якія гэтыя газеты вымушаныя плаціць, вельмі вялікія.

Яшчэ адна газета, «Бобруйский курьер», была вернута ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду ў верасні 2009 года. Акрамя таго, недзяржаўная газета «Вольнае Глыбокае» атрымала ад прадпрыемства сістэмы «Саюздрук» пацверджанне, што зможа зноў патрапіць у кіёскі. Сітуацыя з яшчэ 11 недзяржаўнымі выданнямі па-ранейшаму застаецца нявырашанай.

Не так даўно «Саюздрук» прад'явіў афіцыйны «эканамічны» аргумент, заявіўшы, што прадпрыемства дасягнула максімальнай загрузкі і, такім чынам, не можа гарантаваць магчымасці распаўсюду большага пераліку газет. Аднак калі дэлегацыя міжнароднай місіі запыталася ў службовых асоб, якім жа тады чынам выключаныя газеты маглі распаўсюджвацца да 2006 года, сур'ёзнага адказу так і не прагучала.

Дадзеныя табліцы ілюструюць цяперашнюю сітуацыю з нераспаўсюдам шэрагу недзяржаўных выданняў:

**Газеты, якія не ўключаны ў падпісны каталог «Белпошты»:**

- *«Товарищ»*
- *«Новы час»*
- *«СНплюс. Свободные новости плюс»*
- *«Борисовские новости»*
- *«Витебский курьер-М»*
- *«Вольнае Глыбокае»*
- *«Газета Слонімская»*
- *«Ганцавіцкі час»*
- *«Intex-Press»*

Акрамя таго, яшчэ дзве газеты - *«Рэгіянальная газета»* і *«Газета для Вас»* - сутыкаюцца з абмежаваннямі тэрыторыі распаўсюду па падпісцы.

**Выданні, якія не распаўсюджваюцца праз сістэму «Саюздруку»:**

- *«Товарищ»*
- *«Новы час»*
- *«ARCHE-Пачатак»*
- *«Борисовские новости»*
- *«Витебский курьер-М»*
- *«Газета Слонімская»*
- *«Ганцавіцкі час»*
- *«Intex-Press»*
- *«Нясвіжскі час»*

Улады - у прыватнасці, прадстаўнікі Адміністрацыі прэзідэнта - адзначаюць, што пытанне распаўсюду не з'яўляецца палітычным. З іх пункту гледжання, праблема тычыцца выключна «ўзаемаадносін паміж суб'ектамі гаспадарання» (маюцца на ўвазе *«Саюздрук»*, *«Белпошта»* і адпаведныя газеты). Падчас сустрэчы з місіяй першая намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Пяткевіч адзначыла, што сам факт таго, што недзяржаўныя СМІ наўпрост не забароненыя, з'яўляецца дастатковым пацверджаннем справядлівых эканамічных умоў для недзяржаўных СМІ.

Пасля таго, як пытанне распаўсюду недзяржаўных выданняў было ўзнятае старшынёй ГА «БАЖ» Жанай Літвіной, грамадская каардынацыйная рада ў сферы масавай інфармацыі рэкамендавала дзяржаўным прадпрыемствам-распаўсюднікам і недзяржаўным газетам «вярнуцца да разгляду пытання аб распаўсюдзе», аднак гэтыя рэкамендацыі не пацягнулі за сабою зменаў сітуацыі.

Акрамя таго, усяго праз некалькі дзён пасля завяршэння місіі, 28 верасня 2009 года, «Белпошта» адмовіла газеце «Витебский курьер» ва ўключэнні ў падпісны каталог на 2010 год. Адмова грунтавалася на той жа аргументацыі, якая і раней выкарыстоўвалася ў дачыненні да недзяржаўных СМІ: выбар друкаваных выданняў для ўключэння ў каталог - гэта *не абавязак*, а *права* «Белпошты», якая можа адмовіць у «немэтазгодным» супрацоўніцтве з газетай.

У цэлым, эканамічныя ўмовы дзейнасці прэсы па-ранейшаму ў значнай ступені абумоўленыя ўмяшальніцтвам дзяржавы. Існуе сур'ёзны разрыў паміж дзяржаўнымі і недзяржаўнымі СМІ ў накладах, колькасці падпісчыкаў і рынку рэкламы.

Найбліжэйшыя гады таксама стануць ключавым перыядам у пытанні адкрытасці дзяржаўных СМІ для прыватнага капіталу. Пра верагоднасць такога развіцця падзей, у прыватнасці, гаварыла спн. Пяткевіч, якая не выключае гэткіх перамен у будучым. Аднак яна падкрэсліла, што дзяржава мае намер усталяваць жорсткі кантроль над працэсам прыватызацыі, і што ўсё будзе зроблена дзеля пазбягання сітуацыі, пры якой асобная камерцыйная адзінка змагла б кантраляваць утрыманне СМІ.

**Рэкамендацыі:**

1. Недзяржаўныя СМІ павінны мець права і магчымасць працаваць і развівацца ў справядлівых і роўных эканамічных умовах, уключаючы права на распаўсюд без абмежаванняў і дыскрымінацыі.

2. Улады не павінны лічыць сам факт існавання недзяржаўных СМІ прыкметай роўнасці паміж дзяржаўнымі і недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі.

3. Любая патэнцыйная прыватызацыя дзяржаўных СМІ павінна праходзіць пры ўмовах поўнай празрыстасці і ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, а таксама з улікам магчымых абмежаванняў сумеснай уласнасці і канфліктаў інтарэсаў.

# 6 Рэгістрацыя і акрэдытацыя

## 6.1 Акрэдытацыя журналістаў

Сур’ёзнай перашкодай для доступу журналістаў да інфармацыі з’яўляецца пытанне акрэдытацыі. Журналісты дзяржаўных СМІ атрымліваюць акрэдытацыю без праблем, у той час як журналістам недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі часта ў акрэдытацыі адмаўляюць. Сістэма і крытэрыі атрымання акрэдытацыі не з’яўляюцца празрыстымі і таму пакідаюць месца для адвольных рашэнняў дзяржаўных органаў. З аднолькавымі праблемамі сутыкаюцца журналісты і нацыянальных, і рэгіянальных выданняў, аднак адвольныя рашэнні ўладаў абмяжоўваюць недзяржаўныя СМІ ў рэгіёнах нават у большай ступені.

Па інфармацыі ГА «БАЖ», мясцовыя ўлады адмаўляюць у выдачы акрэдытацыі журналістам мясцовых недзяржаўных СМІ, тлумачачы гэта адсутнасцю заканадаўчых асноваў, якія дазвалялі б ім прымаць рашэнні аб акрэдытацыі. Недзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелаПАН часта сутыкаецца з адмовамі ў акрэдытацыі, у адрозненні ад дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА. Больш за тое, журналістам БелаПАН практычна заўсёды адмаўляюць у акрэдытацыі на мерапрыемствы з удзелам прэзідэнта краіны.

СМІ, якія вяшчаюць з тэрыторыі Польшчы («Белсат», «Еўрапейскае радыё для Беларусі» і «Радыё Рацыя»), не могуць атрымаць дазвол на адкрыццё сваіх прадстаўніцтваў у Беларусі. Адпаведна, іх журналісты не атрымліваюць акрэдытацыю. Новы Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» прадугледжвае абавязковае атрыманне акрэдытацыі карэспандэнтамі замежных СМІ. Па інфармацыі ГА «БАЖ», адмовы ўладаў у акрэдытацыі часта не суправаджаюцца ніякімі тлумачэннямі, альбо папярэдняя праца журналіста без акрэдытацыі становіцца падставай для адмовы. 14 журналістаў атрымалі папярэджанні ад органаў пракуратуры за парушэнне Закона «Аб сродках масавай інфармацыі» ў частцы працы без акрэдытацыі.

Прадстаўнікі ўладаў па-рознаму адказвалі на пытанні аб праблеме акрэдытацыі журналістаў. Першая намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Пяткевіч заявіла, што сістэма акрэдытацыі працуе, і існуе магчымасць для атрымання збалансаванай інфармацыі, хоць, па яе словах, *«гэта нармальна, што дзяржаўныя СМІ маюць лепшы доступ да афіцыйнай інфармацыі»*. Акрамя таго, яна падкрэсліла, што «ўсе дзяржаўныя органы маюць эфектыўныя прэс-службы, якія рэгулярна робяць заявы ў сувязі з афіцыйнымі мерапрыемствамі». Мяркуючы па прыведзеных цытатах, праблема доступу да інфармацыі зведзеная да афіцыйных мерапрыемстваў і аднабаковых стасункаў уладаў з журналістамі.

Міністэрства інфармацыі адмаўляе наяўнасць праблемы акрэдытацыі, заяўляючы, што *«журналістам не патрэбна акрэдытацыя ў Нацыянальным прэс-цэнтры»* і што *«журналісты без праблем атрымліваюць акрэдытацыю на буйныя дзяржаўныя*

*мерапрыемствы»*. Падчас абедзвюх афіцыйных сустрэч было адзначана, што праблема можа існаваць на рэгіянальным і мясцовым узроўнях.

Адсутнасць выразных і празрыстых працэдур, датычных акрэдытацыі, па-ранейшаму з’яўляецца перашкодай для таго, каб недзяржаўныя СМІ мелі роўны з дзяржаўнымі медыя доступ да інфармацыі.

## 6.2 Перарэгістрацыя СМІ і рэгістрацыя новых СМІ

Працэс перарэгістрацыі, прадугледжаны новым Законам «Аб сродках масавай інфармацыі», працягваецца, і ў гэтай сувязі не было адзначана якіх-небудзь праблем. Міністэрства інфармацыі адзначае, што канчатковыя дадзеныя па перарэгістрацыі СМІ будуць вядомыя ў лютым 2010 года.

Па інфармацыі з той жа крыніцы, рэгістрацыя новых СМІ ў адпаведнасці з новым законам распачалася ў лютым 2009 года. З гэтага часу былі зарэгістраваныя 90 новых друкаваных СМІ (87 недзяржаўных і 3 дзяржаўных), а таксама 10 тэле- і радыёпраграм (7 недзяржаўных і 3 дзяржаўных).

Аднак іншыя крыніцы адзначаюць праблемы з рэгістрацыяй рэгіянальных выданняў, у якой было адмоўлена недзяржаўным газетам у Салігорску і Бабруйску. Прадпрыемству «Мая правінцыя» з Салігорска не атрымалася зарэгістраваць рэгіянальную газету *«Солигорск плюс»*. Рашэнне аб адмове было прынята 18 жніўня 2009 года на падставе таго, што прадпрыемства было зарэгістравана ў жылым памяшканні. Такое ж тлумачэнне было дадзена пры адмове прадпрыемству «Гуманітарныя тэхналогіі» (Бабруйск) 21 жніўня 2009 года. Абодва прадпрыемствы заснаваныя прыватнымі асобамі, і іх рэгістрацыя ў жылым памяшканні не супярэчыць беларускаму заканадаўству. Акрамя таго, у іншым рэгіёне краіны ў аналагічным выпадку прадпрыемству ўдалося зарэгістраваць газету. Такая непаслядоўнасць у рэгістрацыі новых СМІ паказвае на адвольны характар рэгістрацыі і патрабуе больш стараннага вывучэння.

Яшчэ некалькі яркіх прыкладаў мелі месца праз некалькі дзён пасля завяршэння працы місіі.

> 30 верасня 2009 года кіраўніцтва «Авторадио», FM-радыёстанцыі з Мінска, атрымала афіцыйнае папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі за «невыкананне творчай канцэпцыі вяшчання». Праграма, за якую было вынесена папярэджанне, - сумесны праект «Авторадио» і «Еўрапейскага радыё для Беларусі», які рэалізуецца пад патранажам Еўрапейскай Камісіі. Па словах генеральнага дырэктара «Авторадио» Юрыя Базана, Міністэрства інфармацыі загадала кіраўніцтву радыёстанцыі «прыняць меры па выкананні заяўленай творчай канцэпцыі» і нагадала, што можаануляваць ліцэнзію на вяшчанне. Папярэджанне было вынесена менавіта той радыёстанцыі, якую падчас ажыццяўлення місіі наведала міжнародная дэлегацыя.

> 12 кастрычніка 2009 года Міністэрства інфармацыі адмовілася рэгістраваць недзяржаўную рэгіянальную газету «Магілёўскі час». Падставай для адмовы стала адсутнасць вышэйшай адукацыі ў галоўнага рэдактара выдання. Прадстаўнік міністэрства паведаміў пра гэта рэдактару газеты ў тэлефоннай гутарцы.

**Рэкамендацыі:**

1. Павінны быць вызначаныя выразныя правілы і ўмовы акрэдытацыі журналістаў. Гэтыя правілы павінны быць празрыстымі, недвухсэнсоўнымі і сумленнымі, а таксама накіраванымі на прадастаўленне ўсім журналістам грамадска значнай інфармацыі.

2. Інстытут акрэдытацыі павінен быць накіраваны на спрашчэнне доступу журналістаў да грамадска значнай інфармацыі, а не служыць абмежавальным механізмам, які перашкаджае выкананню журналістамі іх прафесійных абавязкаў.

# 7 Доступ да інфармацыі

Пытанне доступу да інфармацыі ўяўляе сабой прадмет асаблівай заклапочанасці недзяржаўных СМІ і журналістаў у Беларусі. Гэтая праблема мае два аспекты:

– *заканадаўства:* некаторыя артыкулы Закона «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь» і іншых заканадаўчых актаў абмяжоўваюць права журналістаў на доступ да інфармацыі пра дзейнасць органаў улады;

– *практыка:* службовыя асобы - у прыватнасці, прадстаўнікі ўлады ў рэгіёнах - не могуць альбо наўмысна адмаўляюцца падаваць інфармацыю журналістам недзяржаўных СМІ.

## 7.1 Заканадаўства

15 ліпеня 2008 года былі прынятыя змяненні і дапаўненні ў Закон «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь». У прыватнасці, гэты закон быў дапоўнены артыкулам 22-1, у адпаведнасці з якім усе заявы для прэсы службовых асоб любога ўзроўню павінны быць узгодненыя кіраўніком дадзенага дзяржаўнага органа альбо упаўнаважанай ім асобай.




*«Не болтай!»*
*Савецкі плакат*

У кастрычніку 2008 года Генеральная пракуратура, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэт дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства юстыцыі прынялі сумесную пастанову, датычную прадастаўлення СМІ інфармацыі па «крымінальных справах, звязаных са злачынствамі, якія атрымалі шырокі грамадскі рэзананс, і злачынствамі, якія падрываюць аўтарытэт дзяржаўнай улады». З гэтай пастановы вынікае, што права падаваць інфармацыю па справах, якія выклікалі найбольшую грамадскую цікавасць, маюць толькі органы следства або суд. Прадастаўленне такой інфармацыі па незавершаных справах забароненае без пісьмовага дазволу суддзі.

## 7.2 Практыка

Прымяненне закона і, што больш важна, практыка дзеянняў нацыянальных і мясцовых уладаў прывялі да таго, што службовыя асобы адмаўляюць у каментарах альбо доступе да інфармацыі журналістам недзяржаўных СМІ. Рэпарцёрам звычайна раяць звяртацца ва ўпраўленні ідэалогіі па неабходныя каментары або інфармацыю. Падобныя выпадкі не з'яўляюцца адзінкавымі, і некаторыя з іх, асабліва датычныя рэгіянальных недзяржаўных СМІ, былі прадстаўленыя ўвазе міжнароднай місіі.

Дзяржаўныя СМІ разглядаюць упраўленні ідэалогіі толькі як працэдуру, якую можна лёгка абыйсці пры пошуку інфармацыі і асвятленні грамадска значных падзей. Зрэшты, у рэгіёнах гэтыя ўпраўленні дзейнічаюць вельмі актыўна. Падчас сустрэчы ў Адміністрацыі прэзідэнта было адзначана, што «ад трох да пяці чалавек» «займаюцца пытаннямі спорту, культуры і СМІ» ў кожным горадзе. У той жа час, не існуе дакладна прапісаных палажэнняў альбо правіл, якія вызначаюць дзейнасць упраўленняў ідэалогіі. На практыцы шматлікія журналісты недзяржаўных СМІ павінны запытваць у гэтых упраўленнях інфармацыю альбо каментары пры асвятленні палітычных ці сацыяльных праблем. Гэта вядзе да значнага палітычнага ўмяшальніцтва ў рэдакцыйную працу, а таксама да выпадкаў самацэнзуры ў недзяржаўных СМІ.

Акрамя таго, у пытаннях акрэдытацыі і доступу да інфармацыі ўлады надаюць асноўную ўвагу афіцыйным мерапрыемствам, асабліва тым, удзел у якіх бярэ прэзідэнт. Такім чынам, не прымаецца да ўвагі той факт, што і іншыя мерапрыемствы і сітуацыі маюць цікавасць для грамадства - у прыватнасці, гэта тычыцца рэгіянальных і мясцовых падзей. Існуе відавочная дыскрымінацыя ў тым, як прадастаўляецца доступ да інфармацыі дзяржаўным і недзяржаўным СМІ, калі журналісты імкнуцца выконваць свае абавязкі, асвятляючы эканамічныя, сацыяльныя альбо культурныя падзеі.

У некаторых выпадках журналістам адкрыта перашкаджаюць у іх працы. Апошнія падобныя выпадкі адзначаныя ў верасні 2009 года падчас апазіцыйных акцый у цэнтры Мінска. 9 верасня супрацоўнікі праваахоўных органаў з ужываннем фізічнай сілы перашкаджалі журналістам беларускіх і замежных СМІ асвятляць акцыю пратэсту супраць уводу расійскіх войск на тэрыторыю Беларусі для правядзення сумесных вучэнняў. Фізічная сіла была зноў ужытая супраць журналістаў 16 верасня падчас вулічнай акцыі, прысвечанай 10-м угодкам знікнення палітыка Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага. Журналістаў акружылі групы па 3-4 чалавекі ў цывільнай вопратцы, якія закрывалі аб'ектывы камер рукамі і ўжывалі сілу да фотарэпарцёраў і аператараў, якія спрабавалі здымаць акцыю. Нягледзячы на тое,

што ў рэпарцёраў былі пры сабе журналісцкія пасведчанні, супрацоўнікі праваахоўных органаў шкодзілі самім журналістам і іх апаратуры.

**Рэкамендацыі:**

1. Журналістам не павінны перашкаджаць пры асвятленні імі грамадскіх падзей і дэманстрацый.

2. Палажэнні Закона «Аб дзяржаўнай службе», якія абмяжоўваюць права журналістаў на доступ да інфармацыі пра дзейнасць уладаў, павінны быць скасаваныя.

3. Нацыянальныя і мясцовыя ўлады павінны выразна тлумачыць кожны факт адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, асабліва ў выпадках, у якія ўцягнутыя ўпраўленні ідэалогіі.

4. Беларускія ўлады павінны вызначыць выразныя правілы і палажэнні аб ідэалагічных упраўленнях, якія не мусяць станавіцца фільтрамі ці перашкодамі ў доступе да інфармацыі.

# 8 Рэформы ў сферы СМІ

Беларуская Канстытуцыя фармальна гарантуе свабоду слова і доступ да інфармацыі ў адпаведнасці з артыкулам 33, які абвяшчае:

*«Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне», а таксама гаворыць пра тое, што «манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі альбо асобнымі грамадзянамі, а таксама цэнзура не дапускаюцца».*

Артыкул 34 Канстытуцыі гарантуе:

*«права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, пра палітычнае, эканамічнае, культурнае і міжнароднае жыццё, стан навакольнага асяроддзя», а таксама магчымасць любога грамадзяніна «азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы».*

Аднак на справе гэтыя канстытуцыйныя правы не паважаюцца, бо розныя заканадаўчыя акты і дэкрэты абмяжоўваюць іх, а дзеянні ўладаў часта перашкаджаюць іх рэалізацыі. Сярод найбольш рэпрэсіўных - Закон «Аб сродках масавай інфармацыі», Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму», Закон «Аб дзяржаўнай службе», а таксама шэраг артыкулаў Крымінальнага кодэкса, звязаных з дыфамацыяй.

## 8.1 Закон «Аб сродках масавай інфармацыі»

Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» быў прыняты парламентам у 2008 годзе без якога-небудзь значнага абмеркавання альбо кансультацый з медыясупольнасцю і грамадзянскай супольнасцю. Нягледзячы на тое, што міжнародныя праваабарончыя і медыя-арганізацыі заклікалі прэзідэнта Лукашэнку не падпісваць закон, ён падпісаў яго ў жніўні 2008 года. Закон уступіў у сілу ў лютым 2009 года, замяніўшы папярэдні Закон «Аб друку і іншых СМІ».

У чэрвені 2008 года Офіс Прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ выпусціў даклад, у якім ацэньваў законапраект. У дадзеным дакладзе, у прыватнасці, гаварылася, што *«сур'ёзная прырода недахопаў законапраекта значна перавышае перавагі, якія ён можа мець... Большасць... палажэнняў законапраекта не толькі непатрэбныя, але і згубныя для свабоды слова і свабоды СМІ ў Беларусі»*[13].

Артыкулы з 11 па 16 закона рэгулююць пытанні рэгістрацыі і перарэгістрацыі СМІ, у той час як артыкул 34 значна скарачае спіс правоў журналістаў, пазбаўляючы іх шматлікіх заканадаўчых і сацыяльных гарантый[14]. Тым не менш, нягледзячы на пытанні пра неабходнасць і сапраўдныя мэты працэсу перарэгістрацыі, пакуль ён праводзіцца Міністэрствам інфармацыі з адноснай эфектыўнасцю і без недарэчных абмежаванняў. Працэс перарэгістрацыі працягнецца да лютага 2010 года.

13 *Каментар да праекту Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі", Офіс Прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ, чэрвень 2008 года*

14 *«Беларусь: новы закон аб СМІ прыняты», Андрэй Рыхтэр, Інстытут праблем інфармацыйнага права (http://www.medialaw.ru)*

Раздзел 9 закона апісвае адказнасць СМІ за парушэнне заканадаўства. Першым крокам можа стаць вынясенне пісьмовага папярэджання, якое можа грунтавацца на шэрагу падстаў, уключаючы «распаўсюд недакладнай інфармацыі, якая можа пашкодзіць дзяржаўным або грамадскім інтарэсам» і «распаўсюдзе звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і зневажаюць гонар, годнасць альбо дзелавую рэпутацыю фізічных асобаў альбо дзелавую рэпутацыю юрыдычных асобаў» (артыкул 49). Далей Міністэрства інфармацыі можа прыпыніць дзейнасць СМІ на тры месяцы па шэрагу прычын, уключаючы «невыпраўленне парушэння» альбо непрадастаўленне неабходных доказаў яго выпраўлення (артыкул 50). Крайняя мера, якая можа быць ужытая да СМІ, - спыненне выпуску рашэннем суда (артыкул 51), уключаючы забарону заснавальнікам СМІ ствараць новыя сродкі масавай інфармацыі на працягу трох гадоў (артыкул 10).[15]



*Журналісты газеты «Белорусы и рынок» за працай. Фота Джэйн Мёлер Ларсэн*

Той факт, што Міністэрства інфармацыі не злоўжывае сваімі паўнамоцтвамі, якія ўзраслі, вітаецца. Аднак магчымасць падобных злоўжыванняў застаецца пагрозай, якая аказвае «астуджальны эфект» на свабоду прэсы.

У адрозненне ад Міністэрства інфармацыі, з уступленнем у сілу новага Закона «Аб сродках масавай інфармацыі» органы пракуратуры карыстаюцца сваімі паўнамоцтвамі. У гэтай сувязі за апошнія паўгода яны ўжо вынеслі папярэджанні шэрагу журналістаў за працу на замежныя СМІ.

Закон таксама прадугледжвае стварэнне грамадскай каардынацыйнай рады ў сферы масавай інфармацыі (артыкул 28), склад і дзейнасць якой вызначаюцца Саветам міністраў. Дадзеная грамадская каардынацыйная рада была створана ў 2009 годзе, і ў яе склад увайшлі прадстаўнікі дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а таксама Беларускага саюза журналістаў (БСЖ) і Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ). Гэты крок у пэўнай ступені заклікаіны забяспечыць больш поўны кантроль і больш важкі ўнёсак з боку медыясупольнасці ў пытанні палітыкі ў сферы СМІ і яе рэгулявання, хоць рада дзейнічае выключна як дарадчы орган. Тым не менш,

*15 «Беларусь: новый закон о СМИ принят», Андрей Рихтер, Институт проблем информационного права (http://www.medialaw.ru)*

заклікі з боку рады ўключыць большую колькасць недзяржаўных выданняў у сістэмы распаўсюду «Саюздруку» і «Белпошты» вітаюцца і могуць разглядацца ў якасці першых прыкмет сур'ёзных намераў сябраў рады дамагацца стварэння больш справядлівага і празрыстага медыя-асяродку.

Пункт 1.2 артыкула 11 стварае магчымасць рэгістрацыі інтэрнэт-СМІ, рашэнне аб якой павінен прыняць Савет міністраў. Прыпыненне дзейнасці прызначанай урадам рабочай групы па выпрацоўцы правіл такой рэгістрацыі ўспрымаецца станоўча, аднак магчымасць аднаўлення гэтай дзейнасці па-ранейшаму з'яўляецца пагрозай. Акрамя таго, Міністэрства інфармацыі адмовіла ў рэгістрацыі тым online-версіям СМІ, якія жадалі атрымаць афіцыйную рэгістрацыю.

## 8.2 Крымінальны кодэкс

Чатыры артыкулы Крымінальнага кодэкса прадугледжваюць крымінальную адказнасць за дыфамацыю. Гэта артыкул 367 «Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», артыкул 368 «Знявага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», артыкул 369 «Знявага прадстаўніка ўлады», артыкул 369-1 «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». Акрамя таго, артыкул 193-1 прадугледжвае крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Як дэтальна апісана ў выданні «Заканадаўства і практыка дыфамацыі ў Беларусі, Малдове і Украіне», падрыхтаваным арганізацыяй Article 19, артыкулы 367, 368, 369 беларускага Крымінальнага кодэкса супярэчаць міжнародным стандартам свабоды выказвання, якія прадугледжваюць дапушчальнасць больш высокай ступені крытыкі ў дачыненні да публічных асобаў у параўнанні з астатнімі грамадзянамі. Больш за тое, пакаранні, прадугледжаныя за дадзеныя злачынствы ў Крымінальным кодэксе, з'яўляюцца несувымернымі, а заканадаўства нават не дазваляе абарону абгрунтаваных публікацый. Акрамя таго, артыкул 369-1 разглядае ў якасці крымінальнага злачынства дыфамацыю беларускай дзяржавы, у той час як міжнародныя стандарты не надаюць грамадскім і дзяржаўным органам статусу, які прадугледжваў бы іх заканадаўчую абарону - у іх няма эмацыйных альбо фінансавых інтарэсаў, дзеля якіх яны павінныя захоўваць сваё добрае імя.[16]

У 2002 годзе былі адзначаныя тры выпадкі, калі журналісты былі прызнаныя вінаватымі ў знявазе прэзідэнта і адбылі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі, хоць прэзідэнт Лукашэнка не падаваў у суд сам[17]. У чэрвені 2002 года журналісты газеты «Пагоня» Павел Мажэйка і Мікола Маркевіч былі асуджаныя да двух і двух з паловай гадоў абмежавання волі адпаведна за «хлуслівыя» і «паклёпніцкія» артыкулы, апублікаваныя напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. Падобным чынам у верасні 2002 года рэдактар газеты «Рабочы» Віктар Івашкевіч быў асуджаны на два гады абмежавання волі за свой артыкул «Злодзей павінен сядзець у турме».

Акрамя гэтага, за год у Беларусі фіксуецца 15-20 выпадкаў грамадзянскай дыфамацыі.

У 2003 годзе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ) правяла кампанію за адмену артыкулаў Крымінальнага кодэкса, звязаных з дыфамацыяй, і накіравала зварот у Канстытуцыйны суд. У выніку ў верасні 2003 года Канстытуцыйны суд прапанаваў парламенту ўнесці

16 *«Заканадаўства і практыка дыфамацыі ў Беларусі, Малдове і Украіне», Article 19, Лондан, чэрвень 2006 года*

17 *Максімальнае пакаранне за знявагу прэзідэнта – пяць гадоў пазбаўлення волі, у той час як знявага і паклёп у дачыненні да звычайных грамадзян караецца не больш як двума гадамі пазбаўлення волі*

змены ў артыкулы 367, 368 і 369. І, хоць прапановы Канстытуцыйнага суда так і не былі прынятыя, з таго часу крымінальных спраў у дачыненні да журналістаў па дадзеных артыкулах зафіксавана не было.

Нягледзячы на тое, што ў апошнія гады не было заўважана выпадкаў крымінальнай дыфамацыі, варта адзначыць, што грамадзянская дыфамацыя таксама выкарыстоўваецца для ціску на СМІ. Адпаведныя палажэнні можна знайсці ў Грамадзянскім кодэксе, Выбарчым кодэксе і прэзідэнцкіх дэкрэтах. Усе іх палажэнні, звязаныя з дыфамацыяй, прадугледжваюць ужыванне несувымерных пакаранняў, не даюць магчымасці для адэкватнай абароны і з'яўляюцца залішне расплывістымі.[18]

## 8.3 Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму»

Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму» выбарачна ўжываўся для ўціску свабоды прэсы. Прыкладам ужывання гэтага закона можа стаць зварот Упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці ў суд у лістападзе 2008 года з нагоды знішчэння дзесяці асобнікаў часопіса Arche, затрыманых у кастрычніку таго ж года на беларуска-польскай мяжы. КДБ сцвярджаў, што часопіс утрымлівае «заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці і прапаганду такой дзейнасці».

Акрамя таго, іншыя матэрыялы таксама прызнаваліся экстрэмісцкімі ў адпаведнасці з дадзеным законам, у прыватнасці, польскі дакументальны фільм «Урок беларускай мовы» (Lekcja Bialoruskiego), «Хроніка парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі за 2004 год», кампакт-дыскі са зборнікам песень «Салідарныя з Беларуссю».

## 8.4 Закон «Аб дзяржаўнай службе»

Як ужо адзначалася ў папярэднім раздзеле дадзенай справаздачы, шэраг законаў і пастаноў сур'ёзна абмяжоўвае доступ да інфармацыі СМІ і грамадства. Змены, прынятыя ў Закон «Аб дзяржаўнай службе», азначаюць, што дзяржаўныя службоўцы павінны візаваць альбо зацвярджаць свае інтэрв'ю ў сваіх непасрэдных кіраўнікоў. Акрамя таго, дэкрэт прэзідэнта №65 прадугледжвае прызначэнне работнікаў па сувязях з прэсай, якія адказваюць за агучванне афіцыйнай інфармацыі ад імя дзяржаўных органаў. Гэтыя адказныя работнікі наўпрост падпарадкоўваюцца кіраўнікам дадзеных органаў і звязаныя з Адміністрацыяй прэзідэнта. У выніку службовыя асобы вельмі часта адмаўляюцца падаваць інфармацыю СМІ – яны альбо прапануюць прадаставіць дадзеную інфармацыю работніку, адказнаму за сувязі з прэсай, альбо запавольваюць і абцяжарваюць доступ да інфармацыі.

**Рекомендации:**

1. Улады Беларусі павінны пачаць празрысты і сумленны дыялог з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі СМІ і грамадзянскай супольнасцю аб палітыцы ў сферы СМІ і адпаведным заканадаўстве, з перспектывай правядзення шырокіх рэформ, накіраваных на прывядзенне палітыкі ў сферы СМІ у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі.

18 *«Заканадаўства і практыка дыфамацыі ў Беларусі, Малдове і Украіне», Article 19, Лондан, чэрвень 2006 года*

2. Улады Беларусі і медыясупольнасць павінны выкарыстаць міжнародны экспертны досвед, прапанаваны міжнароднымі арганізацыямі, якія апублікавалі гэтую справаздачу, а таксама Офісам Прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ, для атрымання рэкамендацый аб працэсе шырокіх рэформ медыясферы.

3. Наступныя законы, якія маюць дачыненне да дзейнасці СМІ, мусяць быць рэфармаваныя ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі:

   - Закон «Аб сродках масавай інфармацыі»
   - Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму»
   - Закон «Аб дзяржаўнай службе»
   - артыкулы 367, 368, 369, 369-1 і 193-1 Крымінальнага кодэкса.

4. Рэкамендацыі грамадскай каардынацыйнай рады ў сферы масавай інфармацыі, што адпавядаюць міжнародным стандартам, такія як, напрыклад, заклік да большай прадстаўленасці недзяржаўных выданняў у сістэмах «Саюздруку» і «Белпошты», павінны прымацца да ўвагі ўладамі.

# 9 Рэгуляванне вяшчання, вылучэнне ліцэнзій і частот



Ніжэйпрыведзены тэкст аналізуе прынцыпы размеркавання вяшчальных ліцэнзій і частот у Рэспубліцы Беларусь, а таксама арганізацыю і функцыянаванне органа, які мае паўнамоцтвы размяркоўваць гэтыя частоты і ліцэнзіі ў адпаведнасці з вызначаным парадкам і міжнароднымі стандартамі. Мэтай дадзенага аналізу з'яўляецца падрыхтоўка экспертнай ацэнкі, а таксама некаторых рэкамендацый.

## 9.1 Заканадаўчыя акты

Працэс размеркавання частот і ліцэнзій, а таксама дзейнасць адмысловага органа – Камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні Рэспублікі Беларусь (далей - камісіі), які ўпаўнаважаны кіраваць працэсамі такога размеркавання - рэгулюецца дзвюма пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь *(№726 ад 30 траўня 2003 года «Аб зацвярджэнні становішча аб прадастаўленні на конкурснай аснове права наземнага эфірнага тэлерадыёвяшчання» і №1826 ад 30 снежня 2002 года*

*«Аб электронных і сеткавых сродках масавай інфармацыі»), а таксама дзвюма ўнутранымі пастановамі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь (Пастанова аб Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні і Пастанова аб прадастаўленні на конкурснай аснове права наземнага эфірнага тэлерадыёвяшчання).*

Арганізацыя грамадскага органа па выдачы ліцэнзій на тэлерадыёвяшчанне павінна адпавядаць вызначаным прынцыпам, прынятым у міжнародным праве. Галоўная мэта дадзеных органаў - забеспячэнне свабоды слова і інфармацыі ў сектары, які яны рэгулююць. Ні адна з пастаноў урада, роўна як і палажэнні, не ўтрымлівае выразнай заявы пра тое, што мэтай працы камісіі з'яўляецца забеспячэнне свабоды слова. Забеспячэнне права грамадства на атрыманне і распаўсюд інфармацыі паказана толькі ў якасці адной з мэт камісіі, сярод такіх, як рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў сферы вяшчання, эфектыўнае размеркаванне частот, стварэнне ўмоў для сацыяльнага развіцця і г.д.

Прымаючы да ўвагі гісторыю краіны і яе заканадаўчыя традыцыі, уяўляецца неабходным абазначыць больш выразна прынцып забеспячэння свабоды слова і плюралізму. Гэты прынцып павінен быць прадугледжаны законам, прынятым парламентам, а не проста згадвацца ў пастановах Савета Міністраў. Органы рэгулявання, вызначаныя заканадаўствам, павінны выразна артыкуляваць свае стратэгічныя задачы, якія павінны ўключаць у сябе павагу да свабоды слова, разнастайнасці, дакладнасці, неперадузятасці і аб'ектыўнасці, свабоднаму абмену інфармацыяй і ідэямі. Цяперашняе заканадаўства, датычнае частот і ліцэнзій сектара тэле- і радыёвяшчання, не ўтрымлівае ўсіх вышэйзгаданых задач.

## 9.2 Рэгулюючы орган

У адпаведнасці з вышэйзгаданымі пастановамі і палажэннямі, камісія (якая з'яўляецца адзінай рэгулюючай структурай і для сектару вяшчання, і для працэсу размеркавання ліцэнзій і частот) ствараецца не законам, прынятым парламентам, а пастановай Савета Міністраў.




*Фото Photo.ByMedia.net*

Савет Міністраў разам з Міністэрствам інфармацыі прызначае ўсіх чальцоў камісіі, уключаючы яе старшыню, якім у адпаведнасці з пасадай з’яўляецца міністр інфармацыі. Такім чынам, Савет Міністраў і Міністэрства інфармацыі цалкам кантралююць працэс размеркавання ўсіх частот і ліцэнзій. Пастановы і палажэнні не ўтрымліваюць згадак аб уключэнні грамадзянскай супольнасці альбо прадстаўнікоў палітычных партый у камісію, роўна як згадак аб удзеле фракцый парламента ў складзе камісіі.

У адпаведнасці з пастановамі і палажэннем, камісія ствараецца і рэгулюецца выключна выканаўчай уладай - прэзідэнтам і ўрадам. Яшчэ больш падкрэслівае ролю выканаўчай галіны ўлады пастанова ўрада №726. У адпаведнасці з ёй, прадастаўленне права на наземнае эфірнае тэлерадыёвяшчанне тэлерадыёарганізацыям, створаным па рашэнні прэзідэнта альбо Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, здзяйсняецца Рэспубліканскай камісіяй па тэлебачанні і радыёвяшчанні без правядзення конкурсу. Варта таксама адзначыць, што палажэнне не ўтрымлівае пунктаў аб тэрмінах дзейнасці камісіі і гарантыях незалежнасці яе чальцоў. Пастановы і палажэнні не ўтрымліваюць спісу органаў і арганізацый, якія дэлегуюць сваіх прадстаўнікоў у камісію. Як зразумелі арганізацыі, якія склалі дадзеную справаздачу, усе чальцы камісіі прадстаўляюць розныя міністэрствы і іншыя дзяржаўныя ўстановы.

## 9.3 Працэс ліцэнзавання

Шэраг рэкамендацый, датычных працэсу ліцэнзавання вяшчання, можа быць прапанаваны для прывядзення сітуацыі ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі - зараз працэсу выдачы ліцэнзій бракуе выразнасці і празрыстасці. Ён ініцыюецца не ў выніку аб’яўлення адкрытага конкурсу, а, хутчэй, у выніку атрымання органам, які выдае ліцэнзіі, асобных заявак, у залежнасці ад сітуацыі.

Цяперашняя працэдура ліцэнзавання, якая павінна быць аб’ектыўнай па сваёй прыродзе, не прапісаная ў законе і не адлюстроўвае ўсёй разнастайнасці насельніцтва. Калі беларускія ўлады маюць намер пачаць пэўную лібералізацыю сектару тэлерадыёвяшчання ў будучыні, то працэс ліцэнзавання павінен таксама быць накіраваны на прадухіленне неналежнай канцэнтрацыі ўласнасці, а таксама на вывучэнне фінансавых і тэхнічных магчымасцяў заяўніка.

Нельга прымушаць плаціць папярэдне за яшчэ не атрыманую ліцэнзію, хоць прымальны і абгрунтаваны адміністратыўны збор мае права на існаванне. Любая адмова ў выдачы ліцэнзіі павінна суправаджацца пісьмовым абгрунтаваннем, акрамя таго, павінна быць магчымасць абскардзіць адмову ў судовым парадку. У выпадках, калі атрымальніку ліцэнзіі таксама патрэбна і частата, ён не павінен праходзіць асобную працэдуру прыняцця рашэнняў для атрымання частаты - заяўнікам, якім выдаецца ліцэнзія, павінна быць гарантавана і вылучэнне частаты, адпаведнай іх вяшчальнай ліцэнзіі.

У заключэнне, міжнародная місія лічыць, што для забеспячэння разнастайнасці і прафесіяналізму тэлерадыёвяшчальных СМІ незавершаны працэс вылучэння частаты інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН, пасля таго, як яны атрымалі ліцэнзію ў 2006 годзе, павінен быць перагледжаны - дзеля таго, каб БелаПАН зноў атрымаў ліцэнзію і вяшчальную частату.

**Рэкамендацыі:**

1. Размеркаванне ліцэнзій і частот для тэлерадыёвяшчання, гэтак жа, як дзейнасць адпаведнага рэгулюючага органа, павінна:

   – рэгулявацца законам, прынятым парламентам;
   – быць выразна прапісанымі ў законе, а не пакідацца на выбар камісіі;
   – быць справядлівымі і празрыстымі, уключаць выразныя часавыя рамкі.

2. Заканадаўчыя акты, якія рэгулююць дзейнасць органа, які выдае ліцэнзіі на тэлерадыёвяшчанне, павінны быць заснаваныя на:

   – каштоўнасцях свабоды слова, разнастайнасці, незалежнасці СМІ, прасоўванні плюралізму, а таксама дакладнасці і непрадузятасці;
   – удзеле прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці ў працэсе вызначэння чальцоў камісіі і прадастаўленні мінімальнай колькасці месцаў у камісіі чальцам грамадзянскай супольнасці;
   – абароне тэлерадыёвяшчальнікаў ад умяшання з боку дзяржавы;
   – наяўнасці патэнцыйных санкцый выключна ў выпадках парушэння дакладна вызначаных заканадаўчых патрабаванняў альбо ўмоў ліцэнзавання, пры наяўнасці магчымасці ўжываць гэтыя санкцыі паступова.

# 10 Прафсаюзныя пытанні і працоўныя правы



*Сустрэча кіраўніцтва Беларускай асацыяцыі журналістаў з прадстаўнікамі міжнароднай місіі. Фота Джэйн Мёлер Ларсен.*

Па інфармацыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, 94,1% эканамічна актыўнага насельніцтва краіны з'яўляецца чальцамі прафсаюзных арганізацый, а працоўныя адносіны 97% працаўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў рэгулююцца калектыўнымі дамовамі. Аднак гэтыя лічбы тычыцца так званага «дзяржаўнага» прафсаюза, які з'яўляецца рэшткамі савецкай эпохі. Насамрэч у краіне дагэтуль выкарыстоўваецца дазвольная сістэма рэгістрацыі (якая прадугледжвае атрыманне дазволу на рэгістрацыю, а не простае апавяшчэнне) для грамадскіх аб'яднанняў і іх структурных падраздзяленняў. Стаўленне дзяржавы да шэрагу апазіцыйных партый, незалежных прафсаюзаў і іншых няўрадавых арганізацый за апошнія гады не змянілася.

У 2009 годзе ні адна з наноў створаных першасных арганізацый незалежных прафсаюзаў - Беларускага прафсаюза працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) і Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) - не была зарэгістраваная. Акрамя таго, гвалтоўнае ўмяшальніцтва ў справы прафсаюзаў працягваецца. Чальцы незалежных прафсаюзаў адчуваюць ціск з боку адміністрацый іх прадпрыемстваў з адзінай мэтай - вымусіць іх выйсці з іх прафсаюзаў. Толькі ў верасні 2009 года Рада Свабоднага прафсаюза Беларускага атрымала паведамленне ад адміністрацыі Ленінскага раёна Брэста з пагрозай ліквідаваць першасную прафсаюзную арганізацыю СПБ Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Па інфармацыі Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў, «малаважныя паляпшэнні» адзначаныя ў апошні час са спыненнем працы над некаторымі новымі анты-прафсаюзнымі законапраектамі, аднак 32 чалавекі былі арыштаваныя ў Беларусі за прафсаюзную дзейнасць у апошні час, а яшчэ восем чалавек атрымалі кароткія тэрміны зняволення.

Што тычыцца сферы СМІ, Беларускі саюз журналістаў (БСЖ) аб'ядноўвае каля 2000 журналістаў, і каля 1200 журналістаў з'яўляюцца чальцамі Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ).

Ні адна з гэтых арганізацый не з’яўляецца прафсаюзам у традыцыйным сэнсе гэтага слова, яны не займаюцца заключэннем калектыўных дамоў, а ўяўляюць сабою прафесійныя асацыяцыі журналістаў.

## 10.1 Беларускі саюз журналістаў

Старшыня Беларускага саюза журналістаў Анатоль Лемяшонок адзначыў у гутарцы з міжнароднай місіяй, што БСЖ з’яўляецца «няўрадавай арганізацыяй», а ўмовы працы і заработная плата абмяркоўваюцца прафсаюзам, які ўваходзіць у склад Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, на ўзроўні рэдакцый.

Што тычыцца палітычных пытанняў, БСЖ схільны прытрымлівацца рашэнняў улад. Саюз прамаўчаў падчас прыняцця Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», а таксама абвінавацію кіраўніка БАЖ у «палітыканстве» і «шалёных скоках на касцях» пасля таго, як старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў выступіла за поўнае расследаванне акалічнасцяў, звязаных з самазабойствам актывісткі праваабарончага руху Яны Паляковай 7 сакавіка 2009 года.

## 10.2 Беларуская асацыяцыя журналістаў

БАЖ з’яўляецца асацыяцыяй, у шэрагі якой у асноўным уваходзяць журналісты недзяржаўных выданняў. І журналісты, і выдаўцы з’яўляюцца чальцамі асацыяцыі. Галоўная задача БАЖ - аб’яднанне журналістаў недзяржаўных СМІ, а таксама абарона гэтых СМІ і іх супрацоўнікаў. Акрамя таго, БАЖ імкнецца падтрымліваць прафесійны ўзровень журналістыкі і паменшаць ізаляцыю, якую адчувае медыясупольнасць. БАЖ быў заснаваны ў 1995 годзе, і сёння дасягнуў колькасці ў 1200 сябраў, прыкладна 15% якіх працуюць у дзяржаўных СМІ.

Важна падкрэсліць, што БАЖ як незалежная і непалітычная арганізацыя грамадзянскай супольнасці мае магчымасць афіцыйна працаваць. Нягледзячы на гэта, у мінулым БАЖ адчуваў пэўны ціск. Арганізацыя дзейнічае пад пільнай увагай улад, а некаторым замежным экспертам, якія атрымалі запрашэнне ад БАЖ, было адмоўлена ў беларускай візе, што з’яўляецца абмежаваннем свабоды дзейнасці БАЖ, а таксама свабоды навучаць чальцоў асацыяцыі арганізацыйнай і прафесійнай дзейнасці.

Больш таго, БАЖ сутыкаўся з некаторымі цяжкасцямі пры рэгістрацыі сваіх рэгіянальных структур з-за агульнай сітуацыі са свабодай асацыяцый у Беларусі.

## 10.3 Узаемаадносіны дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый

БАЖ і БСЖ успрымаюць факт свайго суіснавання як нармальную сітуацыю для постсавецкай краіны, у якіх звычайна дзяржаўныя саюзы працягваюць дзейнасць адначасова з развіццём новых арганізацый грамадзянскай супольнасці. Самі журналісты прымаюць рашэнне, ці жадаюць яны быць чальцамі адной з арганізацый.

Кантакты паміж БАЖ і БСЖ падтрымліваюцца і праз грамадскую каардынацыйную раду ў сферы масавай інфармацыі, у якой прадстаўленыя абедзве арганізацыі. Акрамя таго, праходзяць і прафесійныя дыскусіі аб журналісцкай этыцы і прафесіяналізме на аснове кодэксаў этыкі, што маюцца і ў БАЖ, і ў БСЖ.

Гутаркі з дзяржаўнымі СМІ, такімі як *«Народная газета»*, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, а таксама з БСЖ, паказалі, што пытанні этыкі і прафесійных стандартаў з'яўляюцца агульнымі праблемамі большасці журналістаў краіны.

Аднак у цяперашнім кантэксце сусветнага эканамічнага крызісу і асабліва ў Беларусі, дзе мінімальны заробак па стане на 1 жніўня 2009 года склаў 229.700 рублёў (57 еўра), эканамічнае становішча журналістаў становіцца відавочна крытычным. Скарачэнне прыватнага сектару робіць цяжкім, калі не немагчымым, для журналістаў недзяржаўных СМІ зарабляць на жыццё сваёй прафесійнай дзейнасцю. Нават журналістам дзяржаўных СМІ не зашкодзіла б падтрымка моцнай прафсаюзнай арганізацыі.

**Рэкамендацыі:**

1. Медыя арганізацыі павінны працягваць і паляпшаць дыялог аб прафесійных стандартах журналістыкі і годных умовах працы ў індустрыі СМІ.

2. Улады павінны даць журналісцкім арганізацыям магчымасць свабоднай дзейнасці без абмежаванняў, у тым ліку і ў тым, што тычыцца замежных трэнераў.

# 11 Дадаткі

## 11.1 Праграма візіту місіі

**Панядзелак, 21 верасня**

10.00 - Беларуская асацыяцыя журналістаў, *Жанна Літвіна, старшыня*
11.00 - Інфармацыйная кампаніі БелаПАН, *Алесь Ліпай, генеральны дырэктар*
14.00 - «Народная газета», *Уладзімір Андрыевіч, галоўны рэдактар*
16.00 - Офіс АБСЕ ў Мінску, *Жандос Асанаў, намеснік кіраўніка офіса*

**Аўторак, 22 верасня**

10.00 - Сустрэча з рэдактарамі недзяржаўных друкаваных і online-выданняў
11.00 - Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, *Аляксандр Зімоўскі, старшыня*
12.00 - Адміністрацыя прэзідэнта, *Наталля Пяткевіч, першая намесніца кіраўніка адміністрацыі*
14.30 - «Белорусы и рынок», *Вячаслаў Хадасоўскі, галоўны рэдактар*
14.30 - «Intex-press», *Уладзімір Янукевіч, галоўны рэдактар*
16.30 - «Авторадио», *Юрый Базан, генеральны дырэктар*
18.00 - «Наша Ніва», *Андрэй Дынько, галоўны рэдактар*
«ARCHE-Пачатак», *Валерый Булгакаў, галоўны рэдактар*

**Серада, 23 верасня**

11.00 - Міністэрства інфармацыі
11.00 - Дэлегацыя Еўрапейскай камісіі
13.00 - Беларускі саюз журналістаў, *Анатоль Лемяшонок, старшыня*
16.00 - Брыфінг для беларускіх журналістаў

**Чацвер, 24 верасня**

Беларускі Хельсінкскі камітэт

## 11.2 Заява міжнароднай місіі ў Беларусь

Група міжнародных арганізацый, якія займаюцца пытаннямі СМІ і свабоды прэсы, па выніках візіту сумеснай дэлегацыі ў Беларусь, што адбыўся 20–24 верасня, заклікала ўлады краіны прывесці медыясферу краіны ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі.

Група вітае апошнія змены і зазначае, што ціск на СМІ і журналістаў зменшыўся. У той жа час, гэтыя змены павінны стаць трывалымі, каб забяспечыць правы журналістаў і распачаць рэформы медыясферы, якія даўно наспелі. Гэткія змены мусяць быць доўгатэрміновымі і незваротнымі.

У Мінску дэлегацыя сустрэлася з медыя-арганізацыямі і ўладамі Беларусі для абмену думкамі і ацэнкі цяперашняга становішча са СМІ, свабодай прэсы, свабодай выказвання і доступам да інфармацыі.

Арганізацыі, якія ўдзельнічалі ў місіі і падпісалі гэтую заяву, прадставяць поўную справаздачу ў якасці свайго ўнёску ў дыялог па правах чалавека паміж Еўразвязам і Беларуссю і распаўсюдзяць яе сярод іншых міжнародных арганізацый.

Арганізацыі, якія падпісаліся ніжэй, лічаць, што:

– Эканамічныя ўмовы для сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі не роўныя для ўсіх. Сістэмы распаўсюду «Саюздрук» і «Белпошта» абмяжоўваюць доступ да недзяржаўных выданняў і іх наклад. Гэтыя абмежаванні перашкаджаюць развіццю незалежнай і плюралістычнай медыясферы;

– Працэдура выдзялення частотаў і ліцэнзій на вяшчанне непразрыстая і дазваляе розныя тлумачэнні, што перашкаджае развіццю незалежнага і плюралістычнага вяшчання;

– Доступ да інфармацыі абмежаваны, у прыватнасці, з-за прыняцця і прымянення законаў, якія абмяжоўваюць правы журналістаў на інфармацыю альбо ўсталёўваюць дыскрымінацыю ў дачыненні да недзяржаўных СМІ ў параўнанні з дзяржаўнымі ў доступе да інфармацыі, цікавай для грамадства;

– Акрэдытацыя замежных карэспандэнтаў і адкрыццё прадстаўніцтваў замежных СМІ ў Беларусі абмяжоўваюцца непразрыстымі і дыскрымінацыйнымі рашэннямі ўладаў;

– Беларускае заканадаўства аб дыфамацыі і экстрэмізме абмяжоўвае свабоду прэсы, змушае журналістаў да самацэнзуры і не адпавядае еўрапейскім і міжнародным стандартам у галіне свабоды прэсы;

–

Хаця мы вітаем новы дыялог, які тычыцца пытанняў этыкі і самарэгулявання, група падкрэслівае: вельмі важна, каб дзейнасць па гэтых пытаннях вызначалася самой медыясупольнасцю.

**Рэкамендацыі:**

Наступныя рэкамендацыі, якія зрабіла група, скіраваныя на паляпшэнне і аздараўленне сітуацыі са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі і для дзяржаўных, і для недзяржаўных СМІ, а таксама на павышэнне прафесіяналізму, плюралізму і ролі СМІ ў дэмакратычным грамадстве.

1. Рэдакцыйная незалежнасць дзяржаўных і недзяржаўных СМІ павінна паважацца, а самі яны не мусяць цярпець пераслед за сваю прафесійную дзейнасць;

2. Недзяржаўныя СМІ мусяць мець права і магчымасць дзейнічаць і развівацца ў роўных эканамічных умовах, у тым ліку мець права распаўсюджвацца без усялякіх абмежаванняў і дыскрымінацыі;

3. Правілы і ўмовы акрэдытацыі журналістаў павінны быць зацверджаныя. Яны мусяць быць празрыстымі, зразумела выкладзенымі і справядлівымі, а таксама скіраванымі на доступ усіх журналістаў да грамадска важнай інфармацыі;

4. Журналістам не павінны перашкаджаць рабіць рэпартажы з грамадска важных падзей і дэманстрацый;

5. Вылучэнне частот і ліцэнзій на тэле- і радыёвяшчанне павінна быць вызначана заканадаўствам у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, а за самой працэдурай мусіць наглядаць цалкам незалежны рэгуляцыйны орган, каб забяспечыць плюралізм у галіне электронных СМІ;

6. Закон «Аб СМІ», Закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму» і артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія тычацца дыфамацыі, павінны быць прыведзеныя ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне свабоды прэсы і свабоды выказванняў;

7. Улады павінны забяспечыць роўнае стаўленне да арганізацый, якія прадстаўляюць журналістаў;

8. Сродкі масавай інфармацыі, улады і грамадзянская супольнасць павінны працягваць дыялог наконт паляпшэння палітыкі і практыкі ў галіне СМІ.

*Мінск, 24 верасня 2009 г.*

## 11.3 Паказчыкі развіцця сродкаў масавай інфармацыіі ЮНЕСКА

### Сістэма ацэнкі развіцця сродкаў інфармацыі

Зацверджана Міжурадавай радай Міжнароднай праграмы развіцця камунікацыі (МПРК) на 26-й сесіі (26-28 сакавіка 2008 г.) (http://unesdoc.unesco.org/images/0016/001631/163102r.pdf)

У ажыццяўленні права на свабоду слова вырашальную ролю адыгрываюць інфармацыйныя агенцтвы, таму што яны прадастаўляюць грамадскую платформу, з дапамогай якой гэтае права эфектыўна рэалізуецца.

Уяўленне пра сродкі масавай інфармацыі як платформу для дэмакратычнага абмеркавання ахоплівае шэраг узаемазвязаных функцый.

У гэтым кантэксце паняцце «сродкі масавай інфармацыі» адносіцца да ўсіх каналаў камунікацыі, якія перадаюць навіны і грамадскую інфармацыю. СМІ могуць разглядацца як:

1. інфармацыйна-адукацыйны канал, пры дапамозе якога ўзнікае камунікацыя паміж грамадзянамі;
2. сродак распаўсюджвання сюжэтаў, ідэй і паведамленняў;
3. сродак карэкцыі «натуральнай асіметрыі інфармацыі» паміж кіраўнікамі і падначаленымі і паміж прыватнымі арганізацыямі, якія канкуруюць;
4. арганізатар дэбатаў паміж прадстаўнікамі розных сацыяльных слаёў, які спрыяе вырашэнню спрэчак дэмакратычным шляхам;
5. сродак, з дапамогай якога грамадства спазнае сябе і фармуе пачуццё сваёй еднасці, а таксама з дапамогай якога выхоўваецца разуменне каштоўнасцяў, звычаяў і традыцый;
6. праваднік праяваў культуры і культурнай еднасці ўнутры і паміж нацыямі;
7. сродак ажыццяўлення кантролю за дзейнасцю ўладаў, які спрыяе празрыстасці дзяржаўнага жыцця і пільнай увазе грамадства да тых, хто мае ўладу, шляхам выяўлення фактаў карупцыі, незадавальняльнага кіравання і карпаратыўнага злоўжывання;
8. інструмент павышэння эканамічнай эфектыўнасці;
9. важны каардынатар дэмакратычнага працэсу і адзін з гарантаў свабодных і справядлівых выбараў;
10. паўнапраўны абаронца і сацыяльны партнёр, які паважае пры гэтым плюралістычныя каштоўнасці.

